*Рэсурсы недзяржаўных і дзяржаўных медыяў (калі параўноўваць паводле эканамічных, прававых, палітычных і тэхналагічных параметраў) істотна адрозніваюцца. У Беларусі, калі весці гаворку пра грамадска-палітычныя СМІ, на кожныя дзевяць дзяржаўных выданняў даводзіцца адно недзяржаўнае... Гэта азначае, што нягледзячы на несупаставімыя маштабы дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, а таксама няроўныя ўмовы, узровень даверу да нагэтулькі адрозных СМІ ўцэлым цалкам супастаўляльны... У выніку дзяржаўныя СМІ ў нашай краіне аказваюць больш ўплыў на грамадства не за кошт якасці, а за кошт колькасці і няроўных умоваў.*

*Алег Манаеў,*
*заснавальнік Незалежнага інстытута*
*сацыяльна-эканамічных*
*і палітычных даследаванняў*
*(НІСЭПІ)*



# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў СТУДЗЕНІ-САКАВІКУ 2014 ГОДА

У першым квартале 2014 г. у сферы СМІ захаваліся асноўныя тэндэнцыі, якія праявіліся ў другой палове 2013 г. :

- **Стварэнне перашкодаў журналісцкай дзейнасці шляхам затрымання журналістаў, вынясення папярэджанняў на іх адрас і да т.п.;**
- **Выкарыстанне заканадаўства аб супрацьдзеянні экстрэмізму для абмежавання свабоды выказвання меркавання;**
- **Абмежаванне свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце.**

Напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў (23 сакавіка 2014 г.) сталі больш частымі спробы дэзінфармаваць насельніцтва і СМІ шляхам рассылкі сфальсіфікаваных паведамленняў ад імя медыйных персонаў або стварэння фальшывых акаўнтаў у сацыяльных сетках.

Сярод станоўчых падзеяў пачатку года – судовае рашэнне на карысць спадарожнікавага тэлеканала “Белсат ТВ”. Назіральнікі апасаліся, што прад’яўленне прэтэнзіяў да яго было звязанае са спробамі ўладаў спыніць вяшчанне каналу на Беларусь.

## СУДОВАЕ РАШЭННЕ НА КАРЫСЦЬ ТЭЛЕКАНАЛА “БЕЛСАТ ТВ”

**27 студзеня** судовая калегія па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь адхіліла позву беларускай прыватнай кам-

паніі “БЕЛСАТ плюс” да польскага акцыянернага таварыства “Польскае тэлебачанне” ("SA "TVP"), якое з’яўляецца заснавальнікам спадарожнікавага тэлеканала “Белсат ТВ”. Уладальнік “БЕЛСАТ плюс” Андрэй Белякоў намагаўся давесці, што “Белсат ТВ” незаконна выкарыстоўвае ягоны гандлёвы знак, і патрабаваў, каб спадарожнік “Astra” спыніў трансляцыю сігналу “Белсат ТВ”.

**Тэлеканал “Белсат ТВ” з 2007 г. вяшчае з тэрыторыі Польшчы. Аснову ягоных праграмаў складаюць матэрыялы, якія вырабляюцца беларускімі журналістамі для беларускіх грамадзянаў. Журналісты, якія супрацоўнічаюць з Белсатам, зазнаюць сталы пераслед з боку беларускіх уладаў з прычыны заканадаўчай забароны дзейнасці ў Беларусі журналістаў замежных СМІ (у тым ліку беларускіх грамадзянаў) без акрэдытацыі. Некалькі спробаў тэлеканала атрымаць дазвол на адкрыццё ў Беларусі карпункту апынуліся марнымі.**

## ПЕРАШКОДЫ ПРАФЕСІЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**У студзені – сакавіку 2014 г. ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” зафіксавала 14 выпадкаў затрымання журналістаў. Затрыманні і перашкоды журналісцкай дзейнасці адбываліся ў Мёрах (Віцебская вобл.), Бабруйску (Магілёўская вобл.), а таксама ў розных раёнах Мінска. У прыватнасці, не менш за сем журналістаў былі затрыманыя 2 сакавіка ля расійскай амбасады ў Мінску, дзе яны збіраліся асвятляць акцыю пратэсту супраць дзеянняў Расіі ў Крыме.**




Ва ўсіх выпадках журналістаў вызвалялі без прыцягвання да адміністрацыйнай адказнасці. Аднак супраць двух журналістаў – Марыны Маўчанавай у Бабруйску і Аляксандра Дзянісава ў Гродна – супрацоўнікі міліцыі распачалі адміністрацыйныя справы. У адносінах да М. Маўчанавай быў складзены пратакол апытання (яе абвінавачваюць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце), а ў стасунку да А. Дзянісава быў

складзены пратакол па абвінавачванні журналіста ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (ч.2 арт.22.9 КоАП). Гэткім чынам супрацоўнікі міліцыі адрэагавалі на падрыхтоўку сюжэту для тэлеканала "Белсат ТВ" без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі.

**Палажэнні беларускага заканадаўства пра СМІ, якія забараняюць ажыццяўляць журналісцкую дзейнасць у Беларусі карэспандэнтам замежных СМІ без акрэдытацыі МЗС, супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным абавязальніцтвам дзяржавы, у прыватнасці, арт.19 Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Тым не менш, яны неаднаразова выкарыстоўваліся для пераследу беларускіх журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ.**

На працягу першых трох месяцаў 2014 г. пракуратуры Лідскага раёна (Гродзенская вобл.), Гомельскай і Брэсцкай вобласці вынеслі з гэтай жа прычыны папярэджанні чатыром журналістам-фрылансерам, якія супрацоўнічаюць з разнастайнымі медыямі.

## АБМЕЖАВАННІ СВАБОДЫ ДЗЕЙНАСЦІ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

**7 лютага УУС Магілёўскага аблвыканкама паведаміла пра ўзбуджэнне пракуратурай Бабруйска крымінальнай справы па факце абразы прадстаўніка ўлады ў асабістым блогу Алега Жалнова (артыкул 369 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). У паведамленні казалася, што напрацягу 2012-2013 гадоў на персанальным сайце "Блог Алега Жалнова" быў апублікаваны шэраг абразлівых матэрыялаў у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. Максімальная санкцыя, якая можа быць выкарыстаная ў дачыненні да апальнага блогера, - абмежаванне волі на тэрмін да трох гадоў.**




Паводле А.Жалнова, які размяшчаў у сваім блогу аўдыё- і відэаматэрыялы з незаконнымі, на ягоную

думку, дзеяннямі супрацоўнікаў міліцыі, за апошні год на яго было заведзна 14 справаў: адна грамадзянская, дзевяць адміністрацыйных, чатыры крымінальныя. Паводле ягоных разлікаў, за год яго выклікалі больш за 40 разоў у міліцыю і сканфіскавалі 13 адзінак відэа- і іншай лічбавай тэхнікі.

**17 сакавіка** Бабруйскі раённы суд аштрафаваў А. Жалнова на 45 базавых велічыняў (больш за 4,300 еўра) за размешчаны на Youtube запіс прыёму грамадзянаў кіраўніком УУС Бабруйскага гарвыканкама Аляксандрам Васільевым. Дзеянні блогера былі трактаваныя судом як непадпарадкаванне законнаму распараджэнню або патрабаванню пасадовай асобы (арт. 23.4. КоАП), а менавіта невыкананне патрабавання дзяжурнага УУС да ўсіх асобаў, якія запісаліся на прыём, здаць гука- і відэазапісваючыя прылады, у тым ліку і мабільныя тэлефоны. З'яўленне запісу прыёму ў Інтэрнэце міліцыя і суд прыпісалі А. Жалнову.

**18 лютага** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска адхіліў скаргу намесніка старшыні незарэгістраванага праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянціна Стэфановіча на рашэнне Генпракуратуры ўнесці сайт spring96.org у спіс абмежаванага доступу для інтэрнэт-карыстальнікаў. Суд прызнаў В.Стэфановіча неналежным пазоўнікам, спаслаўшыся на тое, што ён не з'яўляецца ўласнікам сайту і таму ягоныя асабістыя правы ў выніку ўнясення сайту ў "чорны" спіс парушаныя не былі.


photo.bymedia.net



**13 сакавіка** адзін з найбуйнейшых беларускіх апазіцыйных інфармацыйных рэсурсаў "Хартыя-97" паведаміў пра хакерскую атаку на сайт. Невядомыя злодзеі спрабавалі ўзламаць сервер сайту на працягу некалькіх гадзінаў, а потым распачалі DDoS-атаку. Рэдакцыя сайту звязала ў сваім паведамленні гэты напад з "актыўным асвятленнем сайтам Хартыі-97 падзеяў ва Украіне і расійскай агрэсіі

супраць нашага паўднёвага суседа." З 2012 г. офіс сайту charter97.org, супрацоўнікі якога зазнавалі рэпрэсіі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г., працуе ў Варшаве.

**25 сакавіка** на працягу некалькіх гадзінаў быў недасяжны сайт незалежнай газеты "Наша Ніва". У гэты ж дзень у Мінску адбывалася шэсце, прымеркаванае да Дня Волі, які штогод адзначаюць дэмакратычныя сілы Беларусі. Хутэй за ўсё, гаворка ідзе пра наўмыснае блакаванне з боку "Белтэлекаму", - напісалі журналісты www.nn.by. Сайт не працаваў нават праз TOP. Магчыма, на NN.BY адпрацоўваюцца новыя "метады працы" перад 2015 годам, калі плануюцца чарговыя прэзідэнцкія выбары.

## "ФАЛЬШЫЎКІ" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

**У перыяд, які разглядаецца, атрымала шырокі распаўсюд практыка рассылкі ад імя вядомых асобаў і арганізацыяў сфальсіфікаваных паведамленняў або стварэнне фальшывых акаўнтаў.**




У прыватнасці, **5 сакавіка** на рэдакцыйную пошту інфармацыйнай кампаніі БелаПАН прыйшла заява ад імені апазіцыйнай партыі левых "Справядлівы свет", у якім асуджаўся "неканстытуцыйны дзяржаўны пераварот ва Украіне". Як заявіў БелаПАН лідар партыі Сяргей Калякін, ніякага дакумента па становішчы ва Украіне партыя "Справядлівы свет" не прымала. Электронны адрас, з якога была накіраваная заява, падобны на партыйны, але адрозніваецца ад яго ўсяго адным знакам. Калякін мяркуе, што да гэтага інцыдэнта маюць дачыненне спецслужбы.

У Бабруйску ад імені журналісткі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты "Бабруйскі кур'ер" М. Малчанавай электронныя лісты з пагрозамі атрымалі два кандыдаты ў дэпутаты Бабруйскага гарсавета ад

апазіцыйнай кампаніі “Гавары праўду”. Журналістка сцвярджае, што невядомая асоба або арганізацыя стварыла “псеўдаскрыню”. Яна таксама падазрае датычнасць спецслужб да гэтай справы.

**14 сакавіка** на незалежным магілёўскім інтэрнэт-сайце “Свабодны фармат” з’явіліся два артыкулы, аўтарам якіх пазначаўся Алесь Лянеўскі – уладальнік дамэну. Выстаўленыя на сайт матэрыяды дыскрэдытоўвалі і прыніжалі апазіцыйных актывістаў Магілёўскай вобласці. Таксама з сайту www.formats.by зніклі ўсе запісы, пачынаючы з 9 верасня 2013 года.

**Рэдакцыя “Свабоднага фармату” сцвярджае, што матэрыялы паклёпніцкага характару былі змешчаныя на сайце шляхам узлому.**

У гэтыя ж дні магілёўскі незалежны журналіст Аляксандр Буракоў паведаміў пра рассылку правакацыйных лістоў ад яго імені з электроннага адрасу, які яму не належыць. А.Буракоў запатрабаваў ад міліцыі вызначыць асобы аўтара гэтых лістоў і прыцягнуць яго да адказнасці, а таксама заблакаваць гэты электронны адрас.

**У сакавіку** пра стварэнне ў сацыяльнай сетцы Twitter фальшывага акаўнту “Нашай Нівы” паведаміла рэдакцыя гэтага выдання. Паводле сцверджанняў рэдакцыі, пры дапамозе гэтага акаўнту і з выкарыстаннем імені, элементаў афармлення і кантэнту “Нашай Нівы” невядомыя асобы распаўсюджваюць інфармацыю, якая не мае ніякага дачынення да гэтага выдання.



## ВЫКАРЫСТАННЕ ЗАКАНАДАЎСТВА АБ СУПРАЦЬДЗЕЯННІ ЭКСТРЭМІЗМУ ДЛЯ АБМЕЖАВАННЯ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ

**11 лютага** суддзя Ашмянскага раённага суда Таццяна Емельяновіч прыняла рашэнне аб забароне на ўвоз у краіну кнігі праваабаронцы Алеся Бяляцкага “Асвечаныя Беларушчынай”. Такім чынам суд адхіліў скаргу на дзеянні Ашмянскай мытні з боку праваабаронцы Таццяны Рэвяка, у якой былі сканфіскаваныя 40 асобнікаў гэтага выдання на мяжы. Суд прызнаў незаконнасць прызначэння і правядзення прызначаных мытняй экспертызаў на прадмет наяўнасці ў кнізе заклікаў да экстрэмізму, але, “паводле ўласнага пераканання”, прыняў рашэнне забараніць увоз выдання “Асвечаныя Беларушчынай” у краіну і забавязаць Таццяну Рэвяка вывезці яе наклад за мяжу.




**40 асобнікаў кнігі, якая ўяўляе з сябе збор літаратурных артыкулаў і нарысаў па беларускім літаратуразнаўстве, а таксама ўтрымлівае чатыры творы, напісаныя А.Бяляцкім за кратамі, былі сканфіскаваныя ў Т. Рэвяка 3 ліпеня 2013 года на кантрольна-прапускным пункце “Каменны Лог” на беларуска-літоўскай мяжы, калі праваабаронца спрабавала ўвезці іх у краіну.**

**13 лютага** на літоўска-беларускай мяжы ў аўтамабілі кіраўніка праваабарончай арганізацыі “Платформа” Андрэя Бандарэнкі мытнікі знайшлі некалькі асобнікаў гадавой справаздачы пра дзейнасць арганізацыі. Нягледзячы на тое, што гэта справаздача была раней размешчаная на сайце арганізацыі і не выклікала ніякіх нараканняў, Ашмянская мытня прыняла рашэнне пра накіроўванне яго на экспертызу на прадмет наяўнасці экстрэмісцкіх і паклёпніцкіх матэрыялаў.

**18 лютага** актывіст Аб’яднанай грамадзянскай партыі Аляксандр Малочка, у якога ў верасні 2013 г. на мяжы быў сканфіскаваны адзін



асобнік кнігі Валерыя Карбалевіча “Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт”, даведаўся, што Ашмянская мытня накіравала выданне ў рэгіянальны аддзел Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці, кб даследаваць яго на прадмет мэтазгоднасці залічэння ў Пералік тавараў, забароненых да ўвозу ці вывазу з тэрыторыі Мытнага саюза. Кіраўнік мытні Іван Нівяркевіч паведаміў А. Малочку, што папярэдні адказ пра тое, што эксперты не знайшлі ў кнізе прыкметаў экстрэмізму, і дазвол на вяртанне выдання ўладальніку неабходна лічыць несапраўднымі.

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

Паводле вынікаў снежаньскага (2013) агульнанацыянальнага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПІ), надрукаванага 3 студзеня 2014 года, недзяржаўным СМІ давяраюць 41%, а не давяраюць 46.1% рэспандэнтаў. Дзяржаўныя СМІ маюць нашмат горшыя паказчыкі: 31.6% проці 55.3% рэспандэнтаў.




**6 лютага** ў Мінску быў прэзентаваны аналітычны даклад Index On Censorship “За рэформы СМІ ў Беларусі” (Belarus: Time for media reform»), прымеркаваны да 5-годдзя ўступлення ў сілу беларускага закона “Аб СМІ”. На думку аўтараў, у Беларусі, як і раней, назіраецца адзін з найбольш рэпрэсіўных медыя-ландшафтаў у Еўропе. Акрамя канстатацыі і абагульнення фактаў, даклад утрымлівае шэраг рэкамендацыяў, сярод якіх – дэманапалізацыя электронных медыяў, стварэнне грамадскіх СМІ, спыненне практыкі адвольных затрыманняў журналістаў, скасаванне ўсіх формаў эканамічнай дыскрымінацыі недзяржаўнай прэсы, адмена шэрагу артыкулаў Крымінальнага кодэкса, якія прадугледжваюць адказнасць за дыфамацыю і г.д.

На пачатку лютага праваабарончая арганізацыя “Рэпарцёры без межаў” выдала чарговы штогадовы Сусветны Індэкс свабоды прэсы. У складзеным арганізацыяй рэйтынгу-2014 Беларусь, як і летась, займае 157-е месца з 180-ці магчымых.

REPORTERS WITHOUT BORDERS FOR PRESS FREEDOM

**“Рэпарцёры без межаў” адзначаюць, што “ў Беларусі незалежныя журналісты працягваюць змагацца ў няроўнай барацьбе з прапагандай “апошняй дыктатуры Еўропы”. Тых, хто асвятляе грамадзкія падзеі, сістэматычна арыштоўваюць. Судовая сістэма і КДБ рэгулярна спасыла-**

**юцца на "барацьбу з экстрэмізмам" дзеля таго, каб прымусіць замаўчаць тых, хто адмаўляецца прытрымлівацца афіцыйнага ідэалагічнага курсу. У 2013 годзе быў забаронены фотаальбом "Прэс-фота Беларусі 2011", а адно з асноўных незалежных выдавецтваў было пазбаўлена ліцэнзіі. Часопіс "Arche" і незалежныя беларускія СМІ, якія базуюцца за мяжой (напрыклад, тэлеканал Белсат ТВ), сутыкаюцца з цэлым шэрагам праяваў адміністрацыйнага валаводжання".**

